**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№31(643)**
**2 жніўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## Просьба аб дапамозе

Просім паведаміць за ўзнагароду па тэл.мтс: (029) 214-34-53 тых, хто бачыў, чуў, альбо падвозіў 17 ліпеня з р-на аўтабазы альбо пас. Барок паджылага мужчыну інваліда на правую нагу (пратэз) у в. Мярэцкія. Можа хто яго бачыў у Мярэцкіх? 17-19 ліпеня яго маглі падвозіць з Мярэцкіх у Глыбокае.



**Спаборніцтвы па пляжнаму валейболу на возеры Бяглец.**

*Фота Ул. Скрабатуна*

# Прагаласаваць на парламенцкіх выбарах у Беларусі можна будзе па вадзіцельскіх правах

**Прагаласаваць на парламенцкіх выбарах у Беларусі можна будзе па вадзіцельскім пасведчанні. Адпаведная пастанова была прынятая 27 ліпеня на пасяджэнні Цэнтрвыбаркама.**

Як адзначыла старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, у адпаведнасці з заканадаўствам, прагаласаваць на выбарах грамадзянін можа пры прад'яўленні пашпарта ці іншага дакумента, які сведчыць асобу. У сувязі з гэтым, паводле яе слоў, Цэнтрвыбаркам заўсёды напярэдадні выбараў прымае пералік дакументаў, пры прад'яўленні якіх таксама можна будзе прагаласаваць.

Ярмошына паведаміла, што ў пералік дакументаў уключаны ваенны білет для ваеннаслужачых, пасведчанне дзяржслужачага, якія фактычна пацвярджаюць беларускае грамадзянства, а таксама студэнцкі білет, пенсійнае ці вадзіцельскае пасведчанні. Па апошніх можна будзе прагаласаваць толькі ў выпадку ўключэння грамадзяніна ў спісы выбаршчыкаў.

«Як паказала практыка, досыць вялікая колькасць асоб у дзень выбараў не маюць пашпарты, бо яны знаходзяцца на замене, у пасольстве», — сказала кіраўнік ЦВК.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

**А.Лукашэнка:**

# Там, дзе не хапае механізатараў, трэба выганяць з працы аж да старшыні райвыканкама

**Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў прымяняць меры да чыноўнікаў за адсутнасць механізатараў і прастоі тэхнікі. Пра гэта ён заявіў 27 ліпеня падчас рабочай паездкі ў Камянецкі раён Брэсцкай вобласці, паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы.**

Як праінфармаваў Лукашэнку старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон, зараз у працэсе ўборачнай кампаніі месцамі ў краіне адзначаецца дэфіцыт механізатараў, з-за чаго асобныя камбайны прастойваюць.

«Там, дзе не хапае механізатараў, трэба выганяць з працы аж да старшыні райвыканкама і аб'яўляць вымову губернатару», — адрэагаваў на гэтую інфармацыю Лукашэнка. Ён папярэдзіў, што калі дзесьці будзе выяўлена, што тэхніка прастойвае з-за галавацяпства, то да адказных за гэта будуць прыменены дысцыплінарныя спагнанні. «І больш не атрымаеце ніводнага камбайна на вобласць. Таму што мы (дзяржава) здорава дапамагаем. А вы іх (камбайны) пад плотам трымаеце», — сказаў беларускі кіраўнік.

Галоўнай задачай падчас сёлетняй уборачнай кіраўнік дзяржавы назваў якасць правядзення работ. Ён таксама адзначыў, што ў аграрыяў ёсць вялікія рэзервы для павышэння эфектыўнасці і культуры земляробства, нягледзячы на значныя вынікі, дасягнутыя ў сельскай гаспадарцы апошнімі гадамі. «У нас яшчэ вялікія рэзервы ў самой культуры, эфектыўнасці земляробства. Што такое ўраджайнасць 40 цэнтнераў з гектара? Можна мінімум 50 атрымаць. Гэта ж вялікая прыбаўка, яшчэ паўмільёна тон. Пры гэтым не трэба дадаткова ні араць, ні сеяць», — падкрэсліў Лукашэнка.

*Андрэй Кажамякін, БелаПАН.*



## «Прыёрбанк» паведаміў аб тэхнічнай змене ўласніка

«Прыёрбанк» паведаміў аб тэхнічнай змене галоўнага акцыянера банка. Як вынікае з інфармацыі на сайце банка, у ліпені Raiffeisen Bank International AG перадаў 87,74% акцый, што яму належаць, сваёй даччынай кампаніі Raiffeisen CIS Region Holding GmbH.

«Прыёрбанк» з'яўляецца найбуйнейшым прыватным банкам Беларусі, уваходзіць у лік сістэмаўтваральных фінансавых устаноў краіны. Паводле звестак Нацбанка, займае пятае месца сярод усіх беларускіх банкаў па памерах актываў.

Саўладальнікамі «Прыёрбанка» з'яўляюцца РУП «Беларуснафта» (2,04% акцый), Дзяржкаммаёмасць РБ (1,97%), ААТ «МАЗ» (1,28%), іншыя юрыдычныя (2,02%) і фізічныя (4,69%) асобы, мясцовыя дзяржаўныя органы і фонды (0,26%).

Raiffeisen Bank International AG з'яўляецца вядучым карпаратыўным і інвестыцыйным банкам на фінансавых рынках Аўстрыі і ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У Цэнтральнай і Усходняй Еўропе Raiffeisen Bank International кіруе вялікай сеткай даччыных банкаў, лізінгавых кампаній і шырокім спектрам праўайдараў іншых спецыялізаваных фінансавых паслуг на 17 рынках.

*М. Носава, БелаПАН.*

**Пастаўскі раён**

# Самы драматычны рэйс

■ Кастусь Александровіч

**Штодзень з аўтавакзала ў Паставах у рэйсы ў розныя куткі краіны і па сваімі раёну адпраўляюцца аўтобусы па больш чым дваццаці розных маршрутах.**

Нічога не прадвяшчала бяды і ў той сонечны ліпеньскі дзень, калі з райцэнтра раніцай паехалі ў Мінск нават 26 пасажыраў. На паўдарозе да беларускай сталіцы ўжо на тэрыторыі Вілейскага раёна на 79-м кіламетры трасы Мядзель-Мінск здарылася непапраўнае. У адно імгненне на шалёнай хуткасці на пасажырскі аўтобус мясцовага аўтапарка № 17 наляцеў на сустрэчнай паласе руху аўтамабіль "БМВ-323". Прадухіліць лабавое сутыкненне з гэтым ліхачом было немагчыма, хоць вадзіцель Андрэй Раманавіч зрабіў усё магчымае, каб зменшыць наступствы гэтага дарожна-транспартнага здарэння. Аднак удар быў такой сілы, што аўтобус "Богдан-Радзімыч" зляцеў з дарогі, але не перавярнуўся. У выніку сутыкнення вадзіцель іншамаркі загінуў на месцы, яго аўтамабіль загарэўся. На шчасце, ніхто з пасажыраў не загінуў. Сама сур'ёзна пацярпеў пастаўскі вадзіцель, у якога аказалася пераламана адна нага і на другой прыйшлося медыкам лячыць рваныя раны пашкоджаных мышц. У той дзень з нязначнымі раненнямі змясцілі ў Вілейскую райбальніцу яшчэ трох пасажыраў, ехаўшых у пярэдняй частцы аўтобуса. А вось пашкоджанні транспартнага сродку аказаліся вельмі моцнымі і аўтобус наўрад ці падлягае рамонту. Некалькі месяцаў назад, праўда, зімой пацярпелі на гэтай трасе сталічныя турысты, якія вярталіся дамоў пасля наведвання сядзібы знакамітага Зюзі Паазерскага. А вось у самім аўтапарку даўно не было такіх сур'ёзных аварый з пасажырамі…

**Браслаўскі раён**

# Адным доўгабудам меней

■ Станіслаў Раманчук

**Ва ўсім свеце своеасаблівай візітоўкай любога горада з'яўляецца яго цэнтральная плошча, чыгуначны і аўтобусны вакзалы.**

У гэтым сэнсе райцэнтру Браслаў не пашанцавала, паколькі да сталіцы айчыннага азёрнага краю цягнікі не ходзяць, а толькі да станцыі Друі. Што датычыць мясцовай аўтастанцыі, дык яна проста зневажала сваім дапатопным выглядам гэты старажытны горад над вялікім возерам Дрывяты. Але сёлета, падобна на тое, што тут нарэшце завяршыцца працяглая рэканструкцыя мясцовай аўтобуснай станцыі, якая працягвалася 4 гады. На месцы старога будынка нарэшце з'явіўся сучасны аб'ект для адпраўкі і абслугоўвання некалькі соцень пасажыраў штодзень. Аднак аўтастанцыя ў глыбінцы – гэта не абласканы чарговы лядовы Палац, якому кожны год не хапала сродкаў, каб завяршыць работы. Дапамагло тое, што ў гэтым годзе аўтастанцыю ўключылі ў абласную Інвестпраграму і выдзелілі яшчэ каля трох мільярдаў рублёў. На завяршэнне рэканструкцыі летам паступілі яшчэ 900 млн. рублёў, што дало магчымасць поўнасцю здаць утульную залу чакання аўтобусаў з буфетам, патрэбны санвузел для пасажыраў і нават душавыя пакоі для аўтамабілістаў і работнікаў аўтастанцыі. У сучасным стылі праведзена аддзелка фасада будынка і добраўпарадкаванне тэрыторыі. Дарожнікі паклалі другі слой асфальту і цяпер аўтастанцыя ў Браславе можа задаволіць акрама беларускіх пасажыраў і падарожнікаў з суседніх Латвіі і Літвы, куды, як і раней, можна даехаць і на міжнародных аўтобусных рэйсах.

**Верхнядзвінскі раён**

# Навечна ў памяці народнай

■ Чэслаў Якубовіч

**Мінула болей двух дзесяцігоддзяў, як завяршылася апошняя з часоў СССР ваенная авантура ў Афганістане, з якой не вярнуліся дамоў звыш васьмісот беларусаў.** Але дагэтуль балючыя тыя падзеі для родных і блізкіх у Верхнядзвінскім раёне, які страціў на той вайне нават шасцёра мясцовых хлопцаў. Сёлета у райцэнтры ажыццявілі даўнюю задуму годна ўшанаваць памяць сваіх герояў-землякоў, мужных воінаў-інтэрнацыяналістаў. У гэтай добрай справе мясцовым афганцам дапамагло Міністэрства абароны Беларусі, якое выдзеліла раёну сапраўдную баявую машыну пяхоты. Гэту адслужыўшую сваё ваенную савецкую тэхніку матастралковых войск даставілі ў Верхнядзвінск, і яе вырашана было зрабіць цэнтрам мемарыяльнай экспазіцыі. Побач усталявалі вялікі камень, на якім размясцілі адлітыя ў метале прозвішчы загінуўшых у розных кутках далёкага Афганістана маладых воінаў, якія годна выканалі свой воінскі абавязак. У мінулым на той вайне вельмі часта гарэлі падбітыя душманамі такія БПМ і таксама выратоўвалі воінаў сваёй бранёй ад куль праціўніка. Па аналагічнай схеме ўвекавечылі памяць загінуўшых землякоў-афганцаў і ў райцэнтры Талачын, дзе днямі быў адкрыты адпаведны помнік. Аб гэтым хадатайнічаў старшыня мясцовага райсавета дэпутатаў Рыгор Мурашка, які перажыў усе жудасныя выпрабаванні той вайны. Завяршаецца адпаведная праца па годнаму ўшанаванню памяці загінуўшых воінаў-афганцаў у Докшыцах, Ушачах і ў Дуброўне, адпаведны воінскі мемарыял ім будзе створаны і ў Паставах.



# Лічба нумара

**12000** – столькі мінімум самых кваліфікаваных будаўнікоў розных спецыяльнасцей на працягу года звольніліся з працы і з'ехалі ўвогуле з Беларусі ў пошуках лепшай долі. У асноўным нашы каменшчыкі і бетоншчыкі прапісаліся ў Расіі, дзе вышэй заробкі ў 3-4 разы за адпаведную працу на будоўлях. Сумна, але гэты непрыемны працэс набірае сілу на фоне крызісу айчыннай будаўнічай галіны, якая тым не менш збіраецца будаваць нават касмадром і 10 тысяч жылых дамоў у далёкай Венесуэле.

Апошнія спадзяванні, канешне ж, напалеонаўскія, паколькі ў сябе дома закончыць бы пачатыя раней аб'екты. Ужо і ў Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва Беларусі вымушаны прызнаць наяўнасць сур'ёзных праблем і тое, што нават у беларускай сталіцы тэрміны будаўніцтва жылля моцна запаволіліся. Няма каму будаваць жылыя дамы і ў глыбінцы, дзе неўзабаве можа наступіць поўны "мёртвы сезон". У нават самых лепшых айчынных будаўнічых трэстах зараз дэфіцыт кваліфікаванага персаналу, аб чым не пабаяўся адкрыта сказаць адзін з намеснікаў начальніка галоўнага ўпраўлення будаўніцтва галіновага міністэрства Марат Лосеў.

Аднак мы жывём у дзіўнай краіне. Дзе прынята лічыць, што ў нас усё добра, як у той маркізы з вядомай песенькі. Многія беларусы з жахам заўважаюць, якія яны бедныя нават на фоне бліжэйшых суседзяў пры пастаянным росце цэн, апошнім часам, напрыклад, на хлеб адразу на 10 %. Такіх скачкоў цэн на галоўны прадукт харчавання, калі абяцаюць зноў высокі ўраджай збожжа, у нармальных краінах не бывае, нават там, дзе наша афіцыйная прапаганда скуліць зубы з прычыны высокага беспрацоўя ў Прыбалтыцы, Польшчы ды і ў самой саюзніцы Расіі.

Іншая справа Беларусь, дзе на канец мая ў цэнтрах занятасці было зарэгістравана толькі 29,7 тысяч беларускіх беззработных. Узровень афіцыйна зарэгістрыраванага беспрацоўя ў Беларусі склаў на гэты перыяд 0,6 % ад эканамічна актыўнага насельніцтва і па гэтаму паказчыку мы быццам уцёрлі нос тым жа амерыканцам і варожаму цяпер Еўрасаюзу. Па дадзеных статыстыкі, у нас у эканоміцы па-ранейшаму занята болей 4,5 млн. чалавек, што на 2,2 % меней, чым было ў 2011 годзе. Аднак ці можна верыць гэтым лічбам?

Мяркуйце самі, але запомніце лічбу айчынных будаўнікоў-мігрантаў. Нават спецыялісты прызнаюць, што іх колькасць будзе расці і не пойдуць яны станавіцца на ўлік у органы па працы, занятасці і сацыяльнай абароны, каб атрымаць вартую жалю дапамогу па беспрацоўю, якой не хопіць і на кіло добрай вэнджанай каўбасы. З іншага боку вядома, што па розных прычынах сёлета да пачатку лета было звольнена болей 348 тысяч чалавек, з якіх каля 7 % за прагулы і іншыя грубыя парушэнні працоўнай дысцыпліны, а амаль 3,5 тысячы па скарачэнні штатаў, ліквідацыі арганізацый.

Адпаведна за 5 месяцаў у нас прынялі на працу толькі 303,5 тысяч беларусаў. Ужо відавочна, што з статыстыкай па беспрацоўю нестыкоўка, некуды падзеліся дзясяткі тысяч афіцыйна суайчыннікаў. На самой справе за мяжой цяпер працуюць болей паўмільёна беларускіх грамадзян, якія ведаюць, што ў будаўніцтве ў Беларусі болей 4 млн. рублёў у месяц нават найлепшы прафесіянал не заробіць. Ды з цягам часу не толькі больш маладзейшыя і энергічныя будаўнікі будуць з'язджаць з Беларусі.

Нутром насельніцтва адчувае, што эканамічная сітуацыя ў краіне пачынае пакрыху вяртацца ў 2010 год, бо зноў стаіць задача падняць заробкі да 500 долараў перад парламенцкімі выбарамі (як раней перад чарговым пераабраннем на пасаду А. Лукашэнкі). Зноў запрацаваў на поўную магутнасць друкарскі станок грошай. Аб'ём грашовай масы дасягнуў велізарных памераў 52,4 трлн. рублёў, з якіх наяўнымі банкнотамі 8,3 трыльёны. Пры гэтым замежныя інвестыцыі нашу краіну абыходзяць бокам і знізіліся за 5 месяцаў на 21 %.

Але трэба залагоджваць электарат, падымаць заробкі, тарыфную стаўку 1-га разраду ў жніўні і ў кастрычніку. Вось чаму не спыняецца рост цэн, а навучаныя горкім вопытам беларусы ўсё часцей пачынаюць скупляць наяўную валюту і аддаваць перавагу валютным банкаўскім дэпазітам (68 % ад астатніх укладаў). Як ні шкада, а ў нас па-ранейшаму відавочны застой, адсутнасць рэформ пры састарэлай тэхналагічнай базе і зношаных асноўных фондах заводаў і фабрык. А мы выжываем пакуль дзякуючы даволі танным, у параўнанні з суседзямі, расійскім энерганосьбітам, а сярод беларускіх гастарбайтэраў, на жаль, лідзіруючыя пазіцыі застаюцца за будаўнікамі…

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 02.08.12 | | | | Пятніца 03.08.12 | | | | Субота 04.08.12 | | | | Нядзеля 05.08.12 | | | | Пнд.06.08.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +17 | +23 | +20 | +13 | +19 | +27 | +23 | +16 | +23 | +30 | +26 | +18 | +22 | +29 | +25 | +18 | +25 | +32 |
| Ціск | 752 | 753 | 753 | 752 | 751 | 751 | 750 | 749 | 748 | 748 | 746 | 745 | 745 | 745 | 745 | 745 | 744 | 744 | 742 |
| Вільготнасць | 96 | 70 | 42 | 56 | 86 | 73 | 43 | 59 | 85 | 72 | 43 | 55 | 84 | 78 | 53 | 70 | 87 | 66 | 38 |
| Вецер м/сек | 1 С-З | 3 С-В | 3 С-В | 2 С-В | 2 В | 3 В | 2 В | 2 С-В | 2 Ю-В | 1 Ю-В | 2 Ю-В | 2 Ю-З | 2 Ю-З | 0 ШТЛ | 0 ШТЛ | 2 С | 1 Ю | 3 Ю | 6 Ю |

## Дзень за днём

**Ужо ў пачатку ліпеня спажывецкія цэны ў Беларусі выраслі сёлета на 10,5 %. Білеты на цягнікі ў Беларусі па цане наблізіліся да аўтобусных і чакаецца, што гэта не апошняе сёлета павышэнне тарыфаў на перавозкі грузаў і пасажыраў. "Белтэлекам" і кампанія МТС зрабілі свае сеткі ўзаемна даступнымі для абанентаў, запланавана пашырэнне інтэрактыўнага інтэрнэт-тэлебачання ZALA з 55 да 75 тэлеканалаў. Толькі за 5 дзён спякоты на айчынных вадаёмах патануў 81 чалавек. Шырокі грамадскі рэзананс выклікала гісторыя з палётам шведскага самалёта ў Беларусь і дала падставы сумнявацца ў надзейнасці айчыннай сістэмы войск СПА.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Услед за з'яўленнем ля берагоў краіны карабельнай групы НАТА Расія адправіла ў Міжземнае мора групу з 5 караблёў Паўночнага і Балтыйскага флоту нібыта на вучэнні.

**ЗША**. Кандыдат рэспубліканцаў у прэзідэнты М. Ромні можа страціць шмат галасоў і нават прайграць Б. Абаме на выбарах, бо СМІ выявілі невядомыя раней крыніцы даходаў.

**Іран.** Парламент краіны аб'явіў аб распрацоўцы законапраекта, які б дазволіў краіне блакіраваць праходы танкераў па Армузскаму праліву ў адказ на эмбарга паставак нафты.

**Францыя.** Новы прэзідэнт Франсуа Аланд загадаў усім міністэрствам краіны неадкладна скараціць свае расходы, панізіў заробкі чыноўнікам урада і падняў падаткі мільянерам.

**Афганістан.** Пры пасадцы за 60 км ад Кандагара пацярпеў крушэнне і разбіўся верталёт МІ-8 з беларуска-расійскім экіпажам, які дастаўляў ваду для амерыканскай ваеннай базы.

**Іран.** Духоўны лідар краіны аятала Алі Хаменеі ўпершыню заклікаў свой народ рыхтавацца да вайны пад кіраўніцтвам Алаха супраць ЗША і Ізраіля і да канца свету.

**Йемен.** Тэрарысты "Аль Кайеды" ажыццявілі другі за 1,5 месяцы буйны выбух у будынку паліцэйскай акадэміі ў сталіцы краіны, дзясяткі чалавек былі там забіты і паранены.

**Літва.** Урад краіны адклаў да канца года прыняцце рашэння аб узвядзенні Вісагінскай АЭС, бо ёсць пытанні па ўдзеле ў праекце Латвіі з Эстоніяй, Польшча з яго выйшла.

**Мексіка.** На граніцы з ЗША ваенныя адшукалі вялізны падземны тунель для перапраўкі наркотыкаў на глыбіні 20 метраў даўжынёй 230 метраў, у якім ёсць вентыляцыя і асвятленне.

**Італія.** Ля берагоў краіны пры спробе незаконна даплысць на лодцы загінулі ад недахопу вады 54 нелегальныя мігранты з Лівіі падчас 15-дзённага плавання, выжыў адзін з іх.

**Галандыя.** Усяго за 1 еўра японскі аўтагігант Mitsubishi Motors прадаў свой стратны завод мясцовай кампаніі VDL з умовай захавання ўсяго штату прадпрыемства з 1500 чалавек.

**Іспанія.** На традыцыйным свяце "Сан Фермін" у Памплоне падчас забегу раз'юшаных быкоў ужо ў першы дзень сур'ёзна параніла 7 чалавек, сотні атрымалі лёгкія траўмы.

**Калумбія.** Ва ўзросце 85 гадоў цяжка захварэў і страціў памяць знакаміты пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Габрыэль Гарсія Маркес, ён не можа болей пісаць творы.

**Расія.** Пасля 11 гадоў шлюбу падаў на развод мясны кароль Мікалай Агурбаш і хоча нават забраць сына ў яго маці, заслужанай артысткі Беларусі 42-гадовай спявачкі Анжалікі.

**Англія.** Для вырабу 4700 узнагарод чэмпіёнам і прызёрам гульняў Алімпіяды-2012 працавалі 800 чалавек з Каралеўскага манетнага двара, яны вагой 400 грам кожны медаль.

# ВНУ Беларусі пачалі выстаўляць на сваіх сайтах кошт навучання для першакурснікаў-платнікаў




■ БЕЛТА

**ВНУ Беларусі з 28 ліпеня пачалі выстаўляць на сваіх сайтах кошт навучання для першакурснікаўплатнікаў, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.**

Першымі гэта зрабілі Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт (БГЭУ) і Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.Машэрава.

Як паведамляе сайт БГЭУ, кошт навучання першакурсніка-платніка ў гэтым вну за год складзе Br11 мільёнаў 358 тысяч 600 ці Br11 мільёнаў 587 тысяч 500.

У Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П.Машэрава навучанне студэнта-прававеда будзе каштаваць Br12 мільёнаў 208 тысяч. Навучанне тутака ж на іншых спецыяльнасцях абыдзецца танней – Br 10 мільёнаў 758 тысяч для завочнага аддзялення кошту на паслугі значна ніжэй - адмысловасць «правазнаўства» абыдзецца студэнту ў Br 3 мільёнаў 705 тысяч 600 за год, а астатнія спецыяльнасці - Br3 мільёнаў 500 тысяч 600.

Як распавялі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве адукацыі, з цяперашняга года дамовы на навучанне павінны падпісваць усе паступаючыя - і тыя, хто будзе залічаны на бюджэтную форму атрымання адукацыі, і тыя, хто будзе вучыцца платна. Дамовы на навучанне ў цяперашнім годзе абавязаны падпісаць усе першакурснікі дзённага, завочнага, бюджэтнага і платнага аддзяленняў, якія паступілі ў ПТВ, ссузы і вну. Падпісанне такой дамовы істотна дысцыплінуе як навучэнцаў і студэнтаў, так і педагогаў, і нават працадаўцаў. Адзначым, што ў дакументах, якія падпісваюць паступаючыя, абавязкова паказаны кошт адукацыйнай паслугі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Ва ўрадзе Беларусі пачалі абмяркоўваць, як вярнуць пад кантроль дзяржавы абутковы холдынг "Луч" у складзе пяці фабрык "Оціка", "Ле Гранд", "Сівельга", "Чэўляр".

**Мазыр.** Амаль 375 тыс. $ штрафу па рашэнні Арбітражнага суда Масквы павінна ААТ "Мазырсоль" заплаціць за змову з шэрагам расійскіх кампаній пры продажах солі ў Расію.

**Івянец.** Прэзідэнцкая камісія праверыла ўсе часці і злучэнні войскаў ВПС і СПА Беларусі па факту незаконнага палёту над гарпасёлкам і над ускраінай Мінска самалёта са Швецыі.

**Гомель.** Абласны цэнтр перажыў трапічны лівень, за некалькі гадзін на горад абрушылася месячная норма ападкаў, асабліва заліло цэнтр і Савецкі раён.

**Мінск.** Сакратар ЦВК Беларусі М. Лазавік заявіў, што не хацеў бы бачыць на прадстаячых парламенцкіх выбарах 23 верасня міжнародных назіральнікаў ад БДІПЧ АБСЕ.

**Бабруйск.** Пасля акцый пратэсту рабочых завода трактарных дэталяў і агрэгатаў з-за недаплат заробкаў адтуль раптам звольніўся намеснік дырэктара па кадрах і ідэалогіі.

**Мінск.** Штучна палітызаваным назваў новы закон "Аб амністыі некаторых асоб, якія ўчынілі злачынствы" юрыст В. Стэфановіч, палітвязняў у ім прыраўнялі да забойцаў.

**Чэрвень.** Жыхары райцэнтра парадаваліся, што іх зямляк Алег Навіцкі стаў камандзірам касмічнага карабля "Саюз-ТМА-06", старта якога ў космас прытуецца на 15 кастрычніка.

**Мядзель.** На адным з азёр супрацоўнікі міжрайінспекцыі аховы прыроды затрымалі двух беспрацоўных браканьераў, якія доннымі вудамі незаконна злавілі 9 вугроў вагой 11 кг.

**Смаргонь.** Мясцовы калгас вярнуў адзіны ў Беларусі дзеючы водны млын, незаконна адабраны ў 1951 годзе, яго гаспадару Францу Жылко, які набыў яго дзед у 19 стагоддзі.

**Магілёў.** У аднаўленай капліцы ў вёсцы Салтанаўка ўстанавілі урну з прахам знойдзеных трох рускіх салдат з корпуса Раеўскага, загінуўшых тут падчас Айчыннай вайны 1812 года

**Карэлічы.** Вячэрняя п'янка ў адной з вёсак завяршылася апёкамі цела 54-гадовага мужчыны ад прасу, сабутэльнікі так вырашылі "правучыць" яго за разліў бутэлькі гарэлкі.

**Іванава.** Жыхары вёскі Дастоева адзначылі 560-годдзе мястэчка і рады, што ўрад Расіі падтрымаў ініцыятыву калег з Беларусі адрадзіць тут сядзібу рода Дастаеўскіх.

**Мінск.** Услед за адкрыццём у 2010 годзе Беларускага гандлёвага дома ў Ерэване, запрацаваў і сучасны завод па разліве 3-х і 5-зоркавых армянскіх каньякоў "Ной".

**Клецк.** Дысцыплінарны камітэт АБФФ выключыў з ліку ўдзельнікаў чэмпіянату РБ па футболе ў 2-й лізе мясцовы ФК "Клечэск" за паўторную няяўку на матч першынства.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Лепель.** Мясцовы МКК увайшоў па паказчыках дзейнасці ў сотню буйнейшых ААТ Беларусі, якія забяспечваюць аб'ёмы выручкі і прыбытку краіны і заняў 79 месца.

**Віцебск.** Для жыхароў новага жылога "спальнага" мікрараёна Білёва пабудавалі яшчэ адзін дзіцячы сад на 230 месц з басейнам коштам амаль 25 млрд. рублёў.

**Бешанковічы.** Вечарам у вёсцы Камоскі, калі гаспадароў і дзяцей не было дома, загарэлася пральная машына "Атлант", якая не працавала, але была ўключана ў разетку.

**Талачын.** На кансервавым заводзе сабралі багаты ўраджай чорнай смародзіны на плошчы 110 гектараў і пачалі выкарчоўваць кустоў, бо пасадкі гэтых ягад сябе за 5 год вычарпалі.

**Паставы.** Мясцовы дзяржпрафкаледж атрымаў нямецкі сертыфікат менеджменту якасці навучання DINENISO 9001-2008 прызнання дыпломаў і мае права вучыць грамадзян ЕС.

**Лепель.** У выніку ўдару маланкі па тэлевізійнай антэне загарэўся дом 83-гадовай пенсіянеркі з вёскі Заполле, пажар зрабіў хату непрыгоднай для далейшага пражывання.

**Навапалацк.** Дырэктар НПЗ "Нафтан" Уладзімір Трэцякоў стаў лаўрэатам конкурсу "Чалавек справы", ва ўмовах крызіса яму удалося павялічыць экспарт у ЕС у 2,3 разы.

**Гарадок.** За незаконную здабычу зімой казулі з двума эмбрыёнамі раённы суд пакараў браканьера 2 гадамі турмы, хоць ён кампенсаваў нанесены ўрон прыродзе 6,3 млн. рублёў.

**Мёры.** У горадзе Дзісна адкрыўся дзіцячы аздараўленчы палатачны лагер "Дружба" для дзяцей са шматдзетных і праблемных сем'яў, ён аказвае дапамогу мясцовым ветэранам.

**Полацк.** Бібліятэчныя фонды горада папоўніліся шыкоўным фотаальбомам "Полацк. 1150", які выйшаў накладам 2,5 тысячы штук у выдавецтве Беларускай энцыклапедыі.

**Дуброўна.** За прадстаўленне ліпавых дакументаў па выкарыстанні дзяржсубсідыі на прадпрымальніцтва аштрафавалі на 35 тысяч расійскіх рублёў былога калгаснага эканаміста.

**Глыбокае.** Каманда мясцовага мясакамбіната заняла 2-е месца на абласных спаборніцтвах санітарных дружын грамадзянскай абароны, якія адбыліся ў былым ваенгарадку Баравуха.

**Бешанковічы.** Цэлы тыдзень правёў у лесе 87-гадовы глуханямы жыхар вёскі Соржыца з дрэнным зрокам, пакуль аслабеўшага небараку не знайшлі з дапамогай верталёта.

**Верхнядзвінск.** Суд пакараў жыхара раёна пазбаўленнем волі на 1 год і 6 месяцаў у калоніі агульнага рэжыму за незаконны вылаў сеткамі 230 асобін розных відаў рыбы.

**Віцебск.** Падчас фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" з горада прыбралі ўсіх асоб без пэўнага месца жыхарства, каго - на лячэнне, шэраг іншых накіравалі ў ЛПП.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Транспартная інспекцыя Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь з'яўляецца органам па забеспячэнні кантролю за транспартнай дзейнасцю ў межах кампетэнцыі Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь, усталяванай актамі заканадаўства.**

*Палажэнне аб Транспартнай інспекцыі зацверджанае пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 4 верасня 2002 г. № 1218.*

# Сітуацыю на дарогах кантралюе транспартная інспекцыя

■ Ул. Скрабатун







**Нядаўна ў Глыбокім было адкрыта прадстаўніцтва Транспартнай інспекцыі Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь. Прадстаўніцтва знаходзіцца ў самым пачатку вуліцы Чыгуначнай, у будынку, дзе месціцца магазін «Будматэрыялы».**

**Наш абавязак давесці да ведама глыбачанаў і чытачоў «ВГ», асабліва да тых асобаў, якія займаюцца грузавымі і пасажырскімі перавозкамі, што такая інспекцыя існуе.**

Можа быць, гэтая інфармацыя шмат каму дапаможа пазбегнуць штрафных санкцый, бо калі чалавек ведае пра існаванне кантролю на дарогах, то і не будзе здзяйсняць неправамоцных дзеянні.

Асноўнай задачай Транспартнай інспекцыі з'яўляецца забеспячэнне кантролю за выкананнем правядзення работ і паслуг заканадаўства ў вобласці транспартнай дзейнасці, патрабаванняў бяспекі і экалагічных патрабаванняў пры эксплуатацыі транспарта, а таксама выкананнем работ, якія звязаныя з выдачай Мінтрансам адмысловых дазволаў (ліцэнзій) на права ажыццяўлення транспартнай дзейнасці.

Сфера кантрольнай дзейнасці Транспартнай інспекцыі вызначана Пералікам кантралявальных (наглядных) органаў і сфер іх кантрольнай (наглядной) дзейнасці, зацверджаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16.10.2009 № 510:

● кантроль за выкананнем вытворцамі транспартных работ і паслуг заканадаўства аб транспартнай дзейнасці, патрабаванняў бяспекі і экалагічных патрабаванняў пры эксплуатацыі транспарту, выкананні перавозак па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (кантроль за ажыццяўленнем транспартнай дзейнасці)

● кантроль за ажыццяўленнем міжнародных аўтамабільных перавозак, у тым ліку на аснове дазволаў, якія выдаюцца ў адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі Рэспублікі Беларусь аб міжнародных аўтамабільных зносінах (аўтамабільны кантроль),

● кантроль за выкананнем дапушчальных параметраў цяжкавагавых і буйнагабарытных аўтамабільных транспартных сродкаў (вагагабарытны кантроль),

● кантроль за станам аб'ектаў транспартнай дзейнасці,

● кантроль за арганізацыяй забеспячэння бяспекі транспартнай дзейнасці, авіяцыйнай бяспекі і бяспекі палётаў

● кантроль за выкананнем ліцэнзіятамі ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоў ажыццяўлення відаў дзейнасці, якія ліцэнзуюцца.

**Сярод выяўленых парушэнняў самае распаўсюджанае – перавозка пасажыраў звыш устаноўленай для транспартнага сродку нормы, што можа стаць прычынай бяды.**

Кантрольныя функцыі выконваюцца Транспартнай інспекцыяй на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на аўтамабільных дарогах, вуліцах, у аўтадарожных пунктах пропуску праз Дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь і іншых стацыянарных і мабільных пунктах аўтамабільнага кантролю на маршрутах руху транспартных сродкаў міжнароднай перавозкі, на пасажырскіх тэрміналах і іншых аб'ектах транспартнай дзейнасці.

Транспартная інспекцыя ў адпаведнасці з ускладзенымі на яе задачамі:

● узгадняе праекты, праграмы, тэхнічныя ўмовы, якія звязаныя з транспартнай дзейнасцю;

● разглядае ва ўсталяваным парадку дакументы па пытаннях выдачы Мінтрансам юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам адмысловых дазволаў (ліцэнзій) на права ажыццяўлення адпаведных відаў дзейнасці і рыхтуе неабходныя прапановы для рашэння ўказаных пытанняў;

● праводзіць праверкі на адпаведнасць патрабаванням заканадаўства дакументаў, неабходных для атрымання ў Мінтрансе юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі адмысловых дазволаў (ліцэнзій) на права ажыццяўлення адпаведных відаў дзейнасці,

● аказвае паслугі па праверцы гатоўнасці да ажыццяўлення відаў дзейнасці транспартных сродкаў, вытворчай базы і тэхналагічнага абсталявання, якія ліцэнзуюцца

● ва ўсталяваным парадку выдае картку вадзіцеля лічбавага тахографа;

● у межах сваёй кампетэнцыі дае кансультацыі па пытаннях, якія звязаныя з выдачай адмысловых дазволаў (ліцэнзій), ужывання нарматыўных прававых актаў, што рэгулююць пытанні ажыццяўлення аўтамабільных перавозак;

● узаемадзейнічае з органамі кантролю транспартнай дзейнасці ў іншых дзяржавах, вывучае досвед іх працы і ўдзельнічае ў правядзенні сумесных мерапрыемстваў;

● ажыццяўляе іншыя функцыі, якія вызначаныя заканадаўствам.

У наш час аўтамабільны кантроль ажыццяўляецца работнікамі Транспартнай інспекцыі кругласутачна ў 23 пунктах пропуску на Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

### Даведка аб правядзенні аперацыі «Тэрмінал» з 8.07 па 20.07, г. Глыбокае.

**Праверана транспартных сродкаў:**
аўтобусаў – 10,
таксі – 52,
складзена актаў – 1,
пастановаў – 3,
сума штрафу – 650 тыс. руб.,
праведзена рэйдаў сумесна з ІМПЗ і АДАІ – 1.

**А.І. Цынковіч,**
*вядучы спецыяліст КТД, г. Глыбокае.*

# “Дом пілігрыма” ў Мосары асвечаны і запрашае пілігрымаў!

■ Кс. Аляксей Юркайць, *адміністратар парафіі Мосар.*

**Дамы для пілігрымаў заўсёды ствараюць каля месцаў паломніцтваў людзей, каля Санктуарыяў, каб людзі маглі перанaчаваць і больш час пабыць з Богам у святым месцы. У многіх месцах у Еўропе каля касцёлаў ёсць вялікія шматпавярховыя гмахі “Дамоў Пілігрымаў”. Таму і ў Мосары, хоць невялікі, але з’явіўся “Дом Пілігрыма”.**

Пілігрымы, якія шукаюць Божага супакою і прагнуць наталіць Божай ласкай сваё духоўныя прагненні, змогуць знайсці ў ім прытулак, каб адпачыць душою і спыніцца на больш працяглы час у Мосарскім Санктуарыі.

У суботні вечар, 28 ліпеня 2012 года, у парафіі ўрачыста быў адчынены і асвечаны “Дом Пілігрыма”, у якім прымалі ўдзел айцы францішкане Вальдэмар Куява і Ян Гернік, манахі капуцыны і парафіяне. Такая магчымасць начлегу і “Дом Пілігрыма” паўсталі толькі ў гэтым годзе намаганнямі душпастыра і парафіянаў.

У «Доме пілігрыма» ўсё ёсць для жыцця, зробленыя ўсе выгоды, як у горадзе, таму можна спыніцца ў ім разам з дзецьмі. Парафія ў стане прыняць на начлег да 17 чалавек. Умовы простыя, як для пілігрымаў. А што яшчэ трэба, каб пераначаваць, пажыць у святым месцы каля касцёла - Мосарскага Санктуарыя?

Кожны пілігрым не павінен плаціць грошы, як у аграсядзібах, але можа толькі скласці ахвяраванне, каб хоць пакрыць выдаткі за пражыванне ў парафіі.

Размясціцца можна на неабмежаваны час: на дзень, тры ці тыдзень.

У Мосары таксама шмат сажалак з рыбай і знаходзіцца вялікае возера Царкавішча, прыемнае чыстае паветра, палі, лясы і проста цудоўнае ціхае, прыгожае і святое месца для адпачынку. Жадаючыя таксама могуць і папрацаваць каля касцёла ў кветніках.

Як дамовіцца? У нашай парафіі ёсць інтэрнэт сайт, у рубрыцы Кантакт, там ёсць інфармацыя, каб патэлефанаваць і дамовіцца з душпастырам парафіі.

Таму шчыра запрашаем пры нагодзе на начлег у «Дом Пілігрыма» ў Мосары!

Падрабязная інфармацыя на сайце:
http://mosar.vickyblog.com





# «Ахова птушак Бацькаўшчыны» правядзе летнія лагеры па падтрыманні гідралагічнага рэжыму ў балоце Ельня

**З 30 ліпеня па 21 жніўня грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) правядзе серыю лагераў па падтрыманні гідралагічнага рэжыму ў балоце Ельня.**

Як паведаміла БелаПАН спецыяліст па природаахоўных пытаннях АПБ Вольга Лукшыц, праект «Выратуем Ельню разам!» рэалізуецца арганізацыяй пры фінансавай падтрымцы прадпрыемства «Кока-Кола Беўрыджыз Беларусь» з 2007 года. 5 гадоў таму ў рамках прыродаахоўнага праекта на балоце было пабудавана 40 плацін для аднаўлення гідралагічнага рэжыму ў балоце, які быў парушаны яшчэ ў 30-х гадах XX стагоддзя. Аднаўленне рэжыму дазволіла выраешыць праблему тарфяных пажараў, якія часта здараліся ў Ельні. Аднак штогод падчас разліву рэк частка плацін псуецца, яны маюць патрэбу ў абнаўленні і рамонце.

Паводле слоў Лукшыц, сёлета ў аглядзе гідралагічных збудаванняў і іх рамонце возьмуць удзел каля 50 валанцёраў, да работ таксама будуць прыцягнуты неабыякавыя да прыроды жыхары Мёрскага і Шаркаўшчынскага раёнаў Віцебскай вобласці. Першы заезд валанцёраў пройдзе з 30 ліпеня па 3 жніўня, другі — з 5 па 8 жніўня, трэці — з 17 па 21 жніўня. Усе ахвотныя паўналетнія людзі ў добрай фізічнай форме з асабістымі якасцямі, якія дазваляюць знаходзіцца ў калектыве і дзейнічаць у рамках правілаў, могуць далучыцца да валанцёраў.

Як адзначыла спецыяліст, «Ельня» — ландшафтны заказнік рэспубліканскага значэння. Гэта адно з найбуйнейшых балот верхавога тыпу ў Еўропе і адна з дзевяці тэрыторый Беларусі, якая мае міжнародны статус тэрыторыі, важнай для птушак. У ліку рэдкіх відаў, якія гняздуюцца на балоце, — чарназобая гагара, залацісты краншнэп, белая курапатка. Тэрыторыя таксама важная як месца прыпынку для мігруючых відаў водна-балотных птушак: гусакоў і асабліва жураўлёў, якіх у Ельні налічваецца каля 4 тысяч.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# Праз заступніцтва святой Ганны, вернікі ў Мосары з пакалення ў пакаленне – сведкі Бога ў свеце!

■ Кс. Аляксей Юркайць, *адміністратар парафіі Мосар.*

**У Мосары ў 1775-90 гадах Роберт і Ганна Бжастоўскія, род якіх валодаў Мосарам амаль 200 гадоў, пабудавалі прыгожы палац у стылі класіцызму, які, на жаль, не захаваўся, а ў 1792 годзе яны фундавалі каталіцкую святыню пад тытулам святой Ганны, нябеснай апякункі жонкі фундатара.**



У гэтым годзе Мосарская парафія ва ўспамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі, святкавала 220 гадоў святыні. Гэта значная дата, і таму варта было ўшанаваць усіх продкаў, якія чынілі добрыя справы на Мосарскай зямлі і былі сведкамі веры ў Бога.

У суботні вечар у парафіі ўрачыста быў адчынены і асвечаны "Дом Пілігрыма", які будзе чакаць пілігрымаў, якія шукаюць Божага супакою і прагнуць наталіць Божай ласкай свае духоўныя прагненні, змогуць знайсці ў ім прытулак, каб адпачыць душою і спыніцца на больш працяглы час у Мосарскім Санктуарыі.

На ўрачыстай Святой Літургіі, якую цэлебраваў ксёндз Аляксей, навуку прамовіў казнадзейфранцішканін айцец Міраслаў Капчэўскі, у якой звярнуў асаблівую ўвагу на падзяку продкам гэтай зямлі, асабліва роду Бжастоўскіх, якія былі вельмі адданыя пану Богу, а таксама на прыклад святой Ганны ў Божым плане збаўлення, якая паказала і дала чалавецтву праз Панну Марыю Самаго Бога – Езуса Хрыста, нашага Пана, так і Мосарскія вернікі з пакалення ў пакаленне перадавалі прыгожыя традыцыі хрысціянскай веры, былі сведкамі адданасці Богу!

Напрыканцы святкавання вернікі надзякавалі свайму душпастыру ксяндзу Аляксею Юркайцю з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння, якая прыпадае 25 ліпеня, і павіншавалі 29 ліпеня з 29-ым днём нараджэння, жадаючы моцнага здароўя душы і цела, Божага благаслаўлення і Духа Святога ў душпастырстве!

Мосарская святыня, сапраўды, надзелена асаблівай Божай ласкай – увесь час у ёй маліліся, прыходзілі да рэліквій шматлікія людзі. Хоць гэты касцёл шмат перажыў і ліхалеццяў за часы свайго існавання: пабачыў і тры войны, і спробы ператварыць яго ў царкву, а ў 1960-80-ых гадах - увогуле ледзь не зачыненне. Але ўсе пагрозы былі бяздзейсныя - касцёл заўсёды заставаўся святыняй.

Таму жыхары парафіі захавалі прыгожыя старадаўнія традыцыі і веру. І гэтае сведчанне жывой і праўдзівай веры, няхай жа праз заступніцтва святой Ганны, надалей трывае з пакалення ў пакаленне і прыносіць багатыя плёны для навяртання людзей і Божага Валадарства!

Падрабязная інфармацыя на сайце:

**http://mosar.vickyblog.com**



**Кожны шосты беларус – самагоншчык. Такія звесткі Інстытута сацыялогіі.Паводле ацэнкі экспертаў Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук, прыкладна 15% дарослага насельніцтва Беларусі займаецца самагонаварэннем.**

# Кожны шосты беларус – самагоншчык

**Як паведамляецца на афіцыйным сайце Міністэрства аховы здароўя, зыходзячы з гэтага можна зрабіць выснову, што ўзровень рэальнага спажывання спіртных напояў у Беларусі складае больш як 15 літраў на душу насельніцтва.**

Для параўнання можна адзначыць, што ў Расіі фактычны ўзровень спажывання спіртных напояў на аднаго чалавека складае 18–20 літраў. Паводле стандартаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, найбольшым крытычным пакачзыкам з'яўляецца 8 літраў абсалютнага алкаголю на аднаго чалавека. У выпадку перавышэння гэтай нормы адбываецца паступовая дэградацыя нацыі ў сацыяльна-дэмаграфічных, эканамічных, сацыяльных, культурных і іншых адносінах.

Органамі ўнутраных спраў ва ўзаемадзеянні з зацікаўленымі арганізацыямі пастаянна арганізоўваюцца рэйды па выяўленні апаратаў і міні-заводаў па вырабе самагону і самагоннай брагі, спыненні фактаў самагонаварэння ў лясных угоддзях. Так, у 2011 годзе знішчана больш як 1 млн. 114 тыс. літраў самагону і самагоннай брагі, прыкладна 413,5 тыс. літраў фальсіфікаваных спіртных напояў, у тым ліку вырабленыя на лікёрагарэлачных прадпрыемствах з няякаснай сыравіны і з парушэннем патрабаванняў тэхнічнага рэгламенту. Прадухілена 11 тыс. 275 фактаў незаконнай рэалізацыі і захоўвання алкагольнай прадукцыі.

Да адміністрацыйнай адказнасці за выраб ці набыццё самагону і брагі, захоўванне самагонных апаратаў прыцягнута 7.132 чалавекі, за парушэнне патрабаванняў дэкрэта прэзідэнта ад 9 верасня 2005 года № 11 «Аб удасканаленні дзяржаўнага рэгуляванння вытворчасці і абароту алкагольнай, нехарчовай прадукцыі з утрыманнем нехарчовага этылавага спірту» — 2 тыс. 289 асоб.

Як адзначаюць у Міністэрстве аховы здароўя, колькасць асоб з залежнасцю ад алкаголю, хто стаіць на дыспансерным уліку ў наркалагічных дыспансерах, на 1 чэрвеня складае 178 тыс. 33 чалавекі. Упершыню пастаўленыя на дыспансерны ўлік за пяць месяцаў 2012 года 10.003 чалавекі.

Інстытутам сацыялогіі НАН Беларусі праведзена даследаванне культуры спажывання спіртных напояў і сацыяльнай эфектыўнасці антыалкагольнай палітыкі.

Высветлілася, што на распаўсюджанасць п'янства і алкагалізму асноўны ўплыў аказваюць наступныя фактары: нізкі ўзровень жыцця насельніцтва (43,5%), адсутнасць цікавых заняткаў у вольны час (38,3%), няправільнае выхаванне ў сям'і (37,5%), нягоды паўсядзённага жыцця (36,4%), «піцейныя» традыцыі і звычаі (34,8%), даступнасць набыцця спіртных напояў (34,3%).

Вялікае значэнне таксама мае вялікі аб'ём вытворчасці і продажы спіртных напояў (25,7%), сямейныя сваркі і канфлікты (26,3%), шырокая рэклама спіртных напояў на тэлебачанні і іншых СМІ (22,2%), недастатковая антыалкагольная асвета і выхаванне (19,9%), нізкія цэны на спіртныя напоі (19,1%) і іншыя фактары.

*БелаПАН .*



# Дзеці і электрабяспека!!!

А.С. Крывёнак,
*дзяржінспектар Энерганагляду.*

**З наступленнем лета і пачаткам вакацый у школах у дзяцей стала значна больш вольнага часу. Менавіта зараз бацькі павінны надаць асаблівую ўвагу таму, чым займаецца іх дзіця і не пакідаць дзяцей без нагляду.**

Так, 2 чэрвеня 2012 года ў г. Петрыкаў Гомельскай вобласці адбыўся няшчасны выпадак з цяжкім зыходам з вучнем 1-га класа сярэдняй школы №2 г. Петрыкава Рогам Мікалем Міхайлавічам 2005 г.нр. Дзіця самавольна пракралася за агароджу адкрытай размеркавальнай прылады электрычнай падстанцыі «Петрыкаў». Пры набліжэнні на недапушчальную адлегласць да токаводных частак, якія знаходзіліся пад напругай, у выніку ўздзеяння ўзніклай электрычнай дугі школьнік атрымаў цяжкія апёкі галавы і канечнасцяў.

Акрамя гэтага неабходна ўвесь час памятаць пра электрабяспеку ў побыце, выконваць патрабаванні бяспекі пры эксплуатацыі бытавых электрапрыбораў і электраправодкі.

1 траўня 2012 года жыхарка г. Петрыкава Кавалёва В.С. (маці) падчас пераборкі бульбы ў падвальным памяшканні разам з дачкой, вучаніцай 10 класа Петрыкаўскай гімназіі, дакранулася да аголеных токаводных частак саматробнай награвальнай прылады, у выніку была траўмавана электрычным токам. Кавалёва А. А. (дачка), спрабуючы вызваліць маці, патрапіла пад дзеянне электрычнага току. Прыбылая брыгада хуткай дапамогі канстатавала смерць абедзвюх пацярпелых.

14 верасня 2011 года адбыўся смяротны няшчасны выпадак з дзіцем (3,5 года) жыхаром н.п. Забалоцце Мсціслаўскага раёна. Пацярпелы, падніамаючыся па металічных усходах, усталяваных знадворку хаты, быў траўмаваны тэхнічнай электрычнасцю. Усходы знаходзіліся пад напругай, з прычыны дотыку пашкоджанага ўчастку самаробнай электраправодкі для электразабеспячэння дапаможных памяшканняў.

«Энерганагляд» у чарговы раз заклікае бацькоў і педагогаў звяртаць увагу школьнікаў на смяротную небяспеку (!) пранікнення ў дзейсныя электраўстаноўкі, набліжэнні на недапушчальна блізкую адлегласць да токаводных частак, якія знаходзяцца пад напругай, і трапленні пад так званую крокавую напругу, якая ўзнікае ў зоне абрыву і падзення на зямлю правадоў ліній электраперадачы, а гэтак жа на выкарыстанне самаробных электрапрыбораў.


Дзецям патрэбныя іншыя гульні!

**Грамадзяне**, не заставайцеся безуважнымі, калі ўбачылі адкрытыя дзверы ў трансфарматарных падстанцыях, электрашчытавых, паверхавых электрашчытах – неадкладна паведамляйце пра гэта ў дыспетчарскую службу найбліжэйшага раёна электрасетак, мясцовы ЖЭУ ці пасялковы савет, не праходзьце міма дзяцей, якія гуляюць у непасрэднай блізкасці да электраўстановак і ліній электраперадачы. Бо на месцы пацярпелых могуць апынуцца і вашы дзеці.

# Каб паляванне было ў радасць

А.Г. Абрамчык,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Хутка скончыцца летняя спёка, і, нарэшце, паляўнічыя атрымаюць магчымасць з другой суботы жніўня ў светлы час сутак стрэльбавым, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі, з падыходу, з засады, з падманваннем,з пад'езда з маламерных судоў адкрыць паляўнічы сезон на вадаплаўную дзічыну, бо здабыча дзікай птушкі не сама мэта паляўнічых, а пабадзяцца са стрэльбай уздоўж рачулкі, возера, балота - гэта, можна сказаць, лад жыцця сапраўднага паляўнічага.**

Але, паляўнічым неабходна памятаць, што любое знаходжанне ў паляўнічых угоддзях са зброяй павінна быць законным, каб зносіны з прыродай не ператварыліся ў непрыемныя зносіны з інспектарам у выпадку парушэння прыродаахоўнага заканадаўства.

Паводле пункта 192 Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання ў Рэспубліцы Беларусь грамадзяне могуць праводзіць паляванне пры наяўнасці :

● дзяржаўнага пасведчання на права палявання, карткі ўліку парушэнняў, дазволу органаў унутраных спраў на захоўванне і нашэнне паляўнічай зброі, паляўнічай пуцёўкі або разавага дазволу на здабычу паляўнічай жывёлы. Указаныя дакументы паляўнічы абавязаны мець пры сабе, а не ў іншым месцы (машына, дом, дача і г.д.), а таксама пры правядзенні палявання неабходна памятаць, што паляванне на вадаплаўную дзічыну дазваляецца ў светлы час сутак, г.зн., за 1 гадзіну да ўзыходу сонца і 1 гадзіну пасля заходу сонца. У выпадку парушэння рэжыму палявання, дадзенае парушэнне разглядаецца як паляванне ў забаронены час і цягне пакаранне ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь. Таму, перш чым ісці на паляванне, неабходна ўважліва перачытаць Правілы, каб паляванне было ў радасць і задавальненне. Тэлефон «гарачай лініі»: 8 (02156) 2-86-70, маб.мтс: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Тэрміны збору ягад

А.Г. Абрамчык,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Ліпень - верасень - месяцы збору ўраджая, месяцы, калі людзі падводзяць прамежкавыя вынікі сваёй працы. Нягледзячы на гарачае лета, у лясах спее ягады чарніцы, маліны, брусніцы, журавіны, растуць грыбы і людзі карыстаюцца дарункамі лесу ў поўным аб'ёме.**

Штогод рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ўсталёўваюцца тэрміны збору ягад журавін і брусніцы, ягады чарніцы, маліны, дурніцы можна збіраць у любы час, але толькі дазволенымі спосабамі і сродкамі, г.зн. рукамі.

У 2012 годзе Рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ад 5 ліпеня 2012 года № 414 усталяваны наступныя тэрміны збору ягад: брусніцы – з 25 жніўня, ягад журавін – з 1 верасня.

Грамадзяне, якія парушалі ўказаныя тэрміны збору ягад брусніцы і журавіны або ажыццяўлялі збор ягад забароненымі метадамі і прыстасаваннямі (грабянцы, камбайны і г.д.), будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці па ч.2 арт. 15.26 Ко АП РБ, які прадугледжвае адказнасць у выглядзе папярэджання ці штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненай шкоды, за кожны кг., сабраных ягад 2,2 базавых велічыні ці 77 000 рублёў.

З 1 па 30 ліпеня 2012 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі за незаконны збор ягад «грабянцамі» затрымана больш 150 грамадзян, сума накладзеных штрафаў склала больш 30 млн. рублёў. У далейшым інспектарамі будзе ажыццяўляцца цвёрды кантроль за ўсталяванымі тэрмінамі і спосабамі збору ягад брусніцы і журавіны, вінаватыя будуць прыцягвацца да адказнасці.

Гэтак жа за ліпень месяц супрацоўнікамі інспекцыі затрымана 26 грамадзян за грубыя парушэнні правіл рыбалоўства, лоўлю рыбы сеткамі і броднікамі, канфіскавана 1 км. сетак і 5 броднікаў, каля 70 кг. незаконна здабытай рыбы, 4 парушэнні правіл палявання, канфіскавана 2 паляўнічых стрэльбы, адна не зарэгістраваная.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету чарговы раз заклікае грамадзян да выканання прыродаахоўнага заканадаўства.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі выражаюць падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў працы і неабыякавыя да захавання нашай прыроды.

Тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Утоеная небяспека тэлевізійных антэн

Ішуцін А.Н.
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

**У XXI веку тэлевізар - гэта ўжо не раскоша, пэўна ўжо не засталося жылых дамоў, дзе адсутнічае гэты, калісьці рэдкі і дарагі, прыбор.**

Але каб тэлевізар «паказваў» розныя перадачы, ён павінен быць абсталяваны антэнай. Менавіта ад яе шмат у чым залежыць якасць малюнка на экране. У сувязі з гэтым жыхары, асабліва ў сельскай мясцовасці, імкнуцца ўсталяваць антэну як мага вышэй, на розных падпорках, часцяком зробленых з матэрыялаў, якія праводзяць электрычны ток. Аднак пры наступным мантажы ці дэмантажы такой антэннай стойкі насельніцтва не ўлічвае паблізу наяўнасці ліній электраперадачы. Шмат хто не здагадваецца, што паражэнне электрычным токам можа адбыцца без дакранання, а толькі пры набліжэнні на небяспечную адлегласць да токаводных частак.

**12 чэрвеня 2012 г** жыхар г.п. Расоны Віцебскай вобласці па просьбе суседкі праводзіў дэмантаж тэлевізійнай антэны даўжынёй 13 метраў, выпрабленай з металічнай трубы. Падчас дэмантажу антэна звалілася на крайні провад, які праходзіць побач хаты лініі электраперадачы напругай 10 кв, пры гэтым пацярпелы трымаўся за металічную трубу і быў смяротна траўмаваны электрычным токам.



**21 чэрвеня 2012 г.** жыхар г.п. Бешанковічы, 1978 года нараджэння, дапамагаў правесці замену драўлянага плота на жалезабетонны. Пры дэмантажы плота была парушана цэласнасць адцяжак мачты тэлевізійнай антэны (даўжыня мачты 9,5 метраў), у выніку чаго мачта пры падзенні кранулася провада паветранай лініі электраперадачы напругай 380 В, размешчанай на адлегласці 6,5 метраў ад мачты. Пры спробе ўтрымаць мачту пацярпелы патрапіў пад напругу і быў смяротна траўмаваны электрычным токам.

**Энерганагляд папярэджвае:**

Электраўстаноўкі з'яўляюцца небяспечнымі для жыцця – паражэнне чалавека электратокам можа адбыцца і без дакранання, а таксама пры набліжэнні на небяспечную адлегласць да токаводных частак. Для ліній напругай 10 кв яно складае меней 0,6 м, для ліній 110 кв – меней 1 м.




*Ніну Браніславаўну Плескачэўскую*

**Віншуем з 70-годдзем!**

Не подыскать такого слова,
Чтоб в полной мере пожелать
Вам хорошего здоровья
И никогда не унывать.
Желаем счастья и добра,
Поменьше горя и печали,
Чтоб больше было светлых дней,
А хмурые — не посещали.
Но в день чудесный юбилея
Все пожеланья хороши.
Пусть все оставшиеся годы
Несут вам радость от души!



*Муж Уладзімір Іванавіч, сыны*

*Юрыя Пятровіча Калбасіча*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Натхнення зычым мы і творчага ўзлёту,
Дзён сонечных і зорных вечароў,
Блакітных раніц і душы палёту,
Кахаць і быць каханым зноў і зноў.
Не ведаць стомленасці, быць патрэбным
На працы, і ў сям'і, і сваякам.
Зязць, як высокай пробы срэбра,
Непадуладным быць сваім гадам.



*Калектыў "ВГ"*

